# КРЫНІЦА

№7 (17) жнівень, 2010 www.bchd.info



# За бліжэйшыя паўтары месяцы Віталь Рымашэўскі аб’едзе 26 гарадоў Беларусі

**Прэтэндэнт на прэзідэнцтва ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Віталь Рымашэўскі ў суботу, 24 ліпеня пачаў аб’езд буйнейшых гарадоў Беларусі дзеля падрыхтоўкі перадвыбарчай кампаніі.**

У кожным горадзе Віталь Рымашэўскі правядзе сустрэчы з актывам БХД, прадстаўнікамі цэркваў і грамадскіх арганізацыі, моладзю. Запланавана правядзенне адукацыйных семінараў для лідэраў Партыі.

24 ліпеня Рымашэўскі сустракаўся з жыхарамі Віцебска, 25 ліпеня – Полацка, 26 ліпеня – Глыбокага і Мёраў, 27 ліпеня – Воршы і Коханава, 28 ліпеня – з жыхарамі Лепеля.

Згодна графіку паездак, кожны новы тыдзень прэтэндэнт на прэзідэнцтва ад БХД будзе праводзіць у новым рэгіёне Беларусі. З 31 ліпеня Рымашэўскі – ў Гомельской вобласці.

«Галоўная мэта гэтых паездак – сфармаваць моцныя каманды, якія будуць працаваць падчас палітычнай кампаніі. Нажаль, спадзеваў на тое, што вызначыцца адзіны кандыдат усё менш, аднак да канца жніўня мы вядзем перамовы з нашымі партнёрамі па дэмакратычным лагеры», - сказаў Віталь Рымашэўскі.

# Адукацыйны семінар для лідэраў БХД

**24 ліпеня ў Віцебску адбыўся першы з амаль 30 адукацыйных семінараў для рэгіянальных лідэраў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, запланаваных да канца жніўня.**





Семінары ладзіць Адукацыйная камісія БХД, якую ўзначальвае сустаршыня Партыі Віталь Рымашэўскі.

У Віцебскім семінары прынялі ўдзел прадстаўнікі суполак БХД з 15 рэгіёнаў вобласці. Тэмамі семінара былі ідэалогія хрысціянскай дэмакратыі, планаванне і падрыхтоўка акцый, піяр-кампаній, праца з новымі мэтавымі аўдыторыямі, праваабарончыя пытанні.

# Віталь Рымашэўскі ў Віцебску



**25 ліпеня прэтэндэнт на прэзідэнцтва ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Віталь Рымашэўскі правёў сустрэчу з актывам Партыі Віцебска.**

Паводле палітыка, падчас сустрэчы абмяркоўваліся пытанні стварэння перадвыбарчых штабоў, працы ініцыятыўнай групы па збору подпісаў, агітацыйнай кампаніі ў падтрымку кандыдата ў прэзідэнты ад БХД.

Нагадаем, з Віцебска Віталь Рымашэўскі пачаў аб’езд буйнейшых гарадоў Беларусі дзеля падрыхтоўкі перадвыбарчай кампаніі. За бліжэйшыя паўтары месяцы Рымашэўскі аб’едзе 26 гарадоў Беларусі.

У кожным горадзе Віталь Рымашэўскі правядзе сустрэчы з актывам БХД, прадстаўнікамі цэркваў і грамадскіх арганізацый, моладзю.

# Віталь Рымашэўскі ў Воршы

**Прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду ад Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя Віталь Рымашэўскі аб’язджае гарады Беларусі з мэтай падрыхтоўкі перадвыбарчай кампаніі.**

За тры дні Рымашэўскі наведаў Віцебск, Полацк, Глыбокае, Мёры і вёску Лявонпаль. Ва ўсіх гарадах



палітык правёў сустрэчы з актывам БХД, падчас якіх абмяркоўваліся пытанні правядзення прэзідэнцкай кампаніі і дзейнасці партыі на наступны палітычны перыяд: восень-зіма 2010–2011 гг.. Таксама Віталь Рымашэўскі падчас паездак сустракаецца са святарамі і лідэрамі мясцовай інтэлігенцыі.

# Віталь Рымашэўскі аб’ехаў Гомельшчыну

**Палітык сустрэўся з актывістамі ў Гомелі, Буда-Кашалёве, Рэчыцы, Светлагорску, Калінкавічах, Мазыры. Акрамя таго, быў шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі хрысціянскіх цэркваў і моладзевых арганізацый.**

Падчас сустрэчаў адбывалася абмеркаванне будучай дзейнасці БХД. Гаворка ішла і пра стварэнне перадвыбарчых штабоў, і пра вырашэнне мясцовых сацыяльных праблем, і пра заснаванне структураў БХД у тых гарадах, дзе іх яшчэ няма.

«Зараз ідзе праца па фармаванні перадвыбарчых штабоў у раённых цэнтрах, а таксама запіс людзей у ініцыятыўныя групы», - паведаміў кіраўнік перадвыбарчага штабу Віталя Рымашэўскага па Гомельскай вобласці Юры Клімовіч.

Віталь Рымашэўскі сказаў і інтэрвію прэсавай службе БХД, што ўражаны і абураны тымі праблемамі, з якімі сутыкаюцца жыхары беларускіх рэгіёнаў.

«Людзі ў гэтым рэгіёне сутыкаюцца з жахлівымі праблемамі. Многія атрымліваюць такі малы заробак, на які немагчыма пражыць. Чыноўнікі і міліцыя робяць, што хочуць, і ставяцца да людзей, як да быдла.



Тое, што я ўбачыў падчас паездак па рэгіёнах, выклікае абурэнне. Адначасова гэтае абурэнне дае натхненне да змагання. Чакаць няма чаго – трэба абараняць правы гэтых людзей», - кажа Віталь Рымашэўскі.

# Канферэнцыя «20 гадоў незалежнасці»

**26 ліпеня ў Менску адбылася навукова-практычная канферэнцыя, прымеркаваная да 20-годдзя Дэкларацыі незалежнасці.**

Удзел у канферэнцыі, якую вёў сустаршыня БХД Аляксей Шэін, узялі дэпутаты Вярхоўнага Савета 12 склікання Алег Трусаў, Лявон Дзейка і Лявон Баршчэўскі. Сярод выступоўцаў былі таксама лідэр Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, кіраўнік руху салідарнасці «Разам» Вячаслаў Сіўчык, лідэр «Правага альянсу» Юрась Карэтнікаў.

Выступоўцы-былыя дэпутаты распавялі пра акалічнасці прыняцця Дэкларацыя незалежнасці 27 ліпеня 1990 года, якая стала падмуркам рэальнай незалежнасці нашай краіны. У тым ліку былі згаданыя тыя пункты дакументу, што былі распрацаваныя дэмакратычнымі дэпутатамі, але не прынятыя тагачасным Вярхоўным Саветам.



Пасля канферэнцыі адбыўся бардаўскі канцэрт.

# Міліцыянты разагналі акцыю, прымеркаваную да 20-годдзя незалежнасці

**Акцыя, прымеркаваная да 20-годдзя Дэкларацыі незалежнасці, была разагнаная. Затрыманыя пяць чалавек; яны знаходзяцца ў пастарунку.**

На плошчы Якуба Коласа ў Менску сабраліся каля пяцідзесяці чалавек. А 18:05 моладзь дваццацігадовага ўзросту – равеснікі незалежнасці – пачалі чытаць пад помнікам Якубу Коласу вершы, прысвечаныя Беларусі.

Падчас акцыі да прысутных падыйшоў міліцыянт у цывільным і папярэдзіў, што акцыя несанкцыянаваная.

Калі пасля ўскладання кветак да помніка людзі рушылі ў бок цэнтру, каб ускласці кветкі да помнікаў Янку Купалу і Максіму Багдановічу, шлях ім перагарадзілі міліцыянты.

Былі затрыманыя Вячаслаў Сіўчык, Андрэй Кім, Мікола Дземідзенка, Кася Давыдзік. Міліцыянты не паведамілі, куды павезлі затрыманых і якое правапарушэнне ім закідаюць.

На пытанні журналістаў адмовіліся адказваць. Журналісту Кастусю Шыталю спрабавалі забараніць фатаграфаваць, пагражалі адабраць фотаапарат.







Таксама была спроба разагнаць родных і сяброў затрыманых, якія чакалі іх каля пастарунку.

У выніку на іх былі складзены пратаколы аб дробным хуліганстве (артыкул 17.1 Адміністрацыйнага кодэксу) за нібыта нецэнзурную лаянку.

Першае судовае паседжанне прайшло 28 ліпеня, аднак яно не адбылося таму, што ў суд не з’явіліся сведкі з боку абвінавачання. Суд быў адкладзены да 5 жніўня.

*Праект*

# БЕЛАРУСІ – ХРЫСЦІЯНСКУЮ ПАЛІТЫКУ!

## Тэзы прэзідэнцкай праграмы кандыдата ад БХД Віталя Рымашэўскага



### 1. БЕЛАРУСІ – СУМЛЕННУЮ ПАЛІТЫКУ!

Галоўнае, што людзям трэба ад улады – сумленнасць. Хлусіш, не выконваеш абяцанняў – у адстаўку. Крадзеш – у турму. Чым больш хрысціянаў на дзяржаўных пасадах – тым больш сумленнай будзе палітыка. Правядзем выбары ўсіх узроўняў без фальсіфікацый. Мэры гарадоў і мястэчак будуць выбірацца, а не прызначацца. Вернем законнасць у суды, пракуратуру, міліцыю. Рынкавая эканоміка будзе сацыяльна арыентаванай. Максімальна спрасцім падаткаабкладанне: кожны беларус зможа без бухгалтарскай адукацыі лічыць свае падаткі.

### 2. БЕЛАРУСЬ – БЕЗ КАРУПЦЫІ!

Колькасць чыноўнікаў паменшым у тры разы: менш чыноўнікаў – менш карупцыі. Прымем «закон Лінкальна»: той, хто дакажа факт карупцыі, атрымае 25% ад выяўленага. Забяспечым недатыкальнасць законна набытай прыватнай уласнасці. Увядзем прыватную ўласнасць на зямлю. Мы за вяртанне ўсіх святыняў, адабраных у вернікаў ў камуністычныя часы. Аднаўленчае правасуддзе: акцэнт не на пакаранне, а на кампенсацыю ўрону і прымірэнне бакоў.

### 3. БЕЛАРУСЬ – ГЭТА СВАБОДА

Кожны чалавек і народ мае свабоду, дадзеную Богам. Мы забяспечым рэальную свабоду веры:





новы закон, падрыхтаваны прадстаўнікамі ўсіх канфесій. Цэрквам – падатковыя льготы: менавіта Царква здольна аздаравіць маральную атмасферу ў грамадстве і ўзяць на сябе клопат пра неабароненых. Свабода СМІ: адмена палітычнай цэнзуры. Свабода прадпрымальніцтва: для заснавання бізнесу – ніякай бюракратыі. Вольны дробны і сярэдні бізнес – аснова нацыянальнай эканомікі.

**4. БЕЛАРУСКАЕ САМАКІРАВАННЕ**

Мясцовае самакіраванне – падмурак любой паспяховай дзяржавы. Праблема павінна вырашацца на тым узроўні, на якім яна існуе (субсідыярнасць).



У кожным горадзе, мястэчку, вёсцы, мікрараёне будзе свая выбарная Рада. Уладу – людзям, якія жывуць тут, а не раённай ці абласной мафіі. Адміністрацыйная рэформа: кіраванне краінай будзе больш эфектыўнае, калі Беларусь будзе падзеленая не на шэсць савецкіх абласцей, а на 23 рэгіёны (Аршанскі, Бабруйскі, Баранавіцкі і г.д.).

**5. БЕЛАРУСЬ – ДЛЯ ЧАЛАВЕКА**

Чалавек – вобраз і падабенства Божае. Дзяржава – для чалавека, а не чалавек для дзяржавы! Сацыяльныя гарантыі пенсіянерам, маламаёмасным, сіротам і інвалідам. Асаблівы клопат і ўвага – перааадоленню наступстваў Чарнобылю і падтрымцы таленавітай моладзі. Галоўныя бюджэтныя расходы – не на дзяржаву, армію і КДБ, а на адукацыю, навуку і ахову здароўя.

**6. БЕЛАРУСЬ – ЕЎРАПЕЙСКАЯ КРАІНА**

Еўропа была збудаваная на хрысціянскіх каштоўнасцях. Свабода, справядлівасць, культура, узровень жыцця – вынікі хрысціянства. Мы ідзем у Еўропу, каб разам з суседзямі адраджаць еўрапейскія хрысціянскія каштоўнасці. З Расіяй – узаемавыгадныя сяброўскія дачыненні. Беларусь – нейтральная краіна (ніякіх НАТО і АДКБ). Беларусі – еўрапейская эканоміка, заснаваная на навука- і працаёмістай вытворчасці, транзіце, сэрвісе, турыстычным бізнесе, інфармацыйных і экалагічных тэхналогіях.

**7. МОЦНАЯ СЯМ’Я – МОЦНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Дзяржаўная праграма змяншэння абортаў і разводаў. Падатковыя льготы – сем’ям, асабліва шматдзетным. Сямейнаму бізнесу – падтрымку. Увядзенне мацярынскага капіталу. Крэдыты на жыллё і набыццё маёмасці маладым сем’ям. Комплекс мерапрыемстваў па змаганні з усеагульнай алкагалізацыяй. Спыненне прапаганды разбэшчанасці. Жыве Беларусь – жыве з Богам



# Віталь Рымашэўскі: *Веру ў Бога, у Беларусь, у здольнасць беларусаў абараніць права на годнае жыццё*




Адказы на пытанні, зададзеныя падчас вэб-канферэнцыі прэтэндэнту на прэзідэнцтва ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Віталя Рымашэўскага.

**Ты маеш шмат досьведу ў грамадскай і палітычнай дзейнасці. які досьвед ты лічыш найбольш каштоўным для сябе?** – *Алесь*

**Віталь Рымашэўскі:** Досвед працы падчас стварэння БХД.

Гэта было вельмі складана, вельмі цікава адначасова, бо ніхто не рабіў раней падобнага. У працы па стварэнні БХД мы мелі поўную свабоду рабіць тое, што мы лічым неабходным, сыходзячы з ўласнай веры і ўласных перакананняў.

Упэўнены, што ніхто ў Беларусі не мае падобнага паспяховага досведу яднання розных людзей з розных канфесій, рознага ўзросту і рознага сацыяльнага статусу. Наймацнейшая дэмакратычная партыя была створана за 3 гады ва ўмовах рэжыма Лукашэнкі.

**Што для цябе Беларусь?** – *Adelia*

**Віталь Рымашэўскі:** Беларусь – гэта краіна, якую даў мне Гасподзь. Беларусь – гэта, найперш людзі, беларусы – сучаснікі і продкі, усе тыя, хто яе ствараў і стварае, тыя, з каго яна складаецца.

**Ці павядзеце Беларуь у Эўрасаюз - амаральны, постхрысьціянскі і паволі пераўтвараючыся ў мультыкультурны Вавілон?** – *Janis*

**Віталь Рымашэўскі:** Беларусь – сэрца Еўропы. Калі ад цела ізаляваць сэрца – ці выжыве чалавек? Ці будзе здаровы і здольны змагацца з хваробамі? Не!

Беларусы - моцны народ. Я веру ў тое, што хрысціянскія духоўныя каштоўнасці не толькі стануць асновай нашый дзяржавы, але і праз Беларусь будуць умацоўвацца ў Еўропе і ва ўсім свеце.

**Эканамічная арыентацыя БХД будзе больш рынава-капіталістычнай ці сацыяльнай?** – *Рыта*

**Віталь Рымашэўскі:** БХД з’яўляецца партыяй, якая прапануе беларускаму народу эканамічную мадэль рынкавай сацыяльна-арыентаванай эканомікі. Мы лічым, што гэткая мадэль з’яўляецца найбольш эфектыўнай ў пераходны перыяд эканомікі.

БХД адхіляе сацыялістычныя і іншыя формы калектывізму. Гэта адносіцца таксама да “дзікага” капіталізму, які робіць стаўку толькі на рынак і сам па сабе не знаходзіць эфектыўных рашэнняў сацыяльных праблем нашага часу. Рынкавая сацыяльна-арыентаваная эканоміка застаецца нашым адказам-выклікам у век глабалізацыі.

**Віталь, усе ведаюць тваю настойлівасць, рашучасць, напор. Ты сапраўды лічаш, што памяр-**

**коўным беларусам патрэбны менавіта такі лідэр?** – *Liavon*

**Віталь Рымашэўскі:** Беларусы – не такія памяркоўныя, як здаецца на першы погляд. Я лічу, што беларусы, магчыма, трохі больш стрыманыя і трохі больш разумныя за іншыя народы, бо яны не даюць веры палітычным лідэрам і папулісцкім лозунгам. І як паказвае практыка, часта яны маюць рацыю ў сваім недаверы.

Рашучасць яшчэ прыйдзе, беларусы здольныя будуць паказаць свой характар на бліжэйшай прэ-



зідэнцкай кампаніі. Я ў гэтым перакананы.

**Вы плануеце заводзіць другое другое дзіця? Як будучы прэзідэнтам вы плануеце прысвячаць час сям'і? Калі вы станеце прэзідэнтам якую ролю будзе займаць ваша жонка?** – *Ronald*

**Віталь Рымашэўскі:** Так, плануем, і спадзяемся на тое, што Гасподзь яшчэ не аднойчы дабраславіць нашу сям'ю на памнажэнне.

Мая сям'я мяне падтрымлівае ва ўсіх маіх справах. З часам – заўсёды складана, але жонка Насця ў маім асабістым жыцці заўсёды будзе займаць выключна важную ролю. Што датычна яе працы ці публічнай дзейнасці , то я не буду нічога навязваць, але спадзяюся, што яна будзе побач са мною і ў гэтым. Перакананы, што ніводзін прэзідэнт свету яшчэ не меў лепшай жонкі.

**А вы упэўненыя, што зможаце кіраваць дзяржавай? Без адпаведнага вопыту?** – *Nata*

**Віталь Рымашэўскі:** Я ўпэўнены ў сваіх сілах і, галоўнае, у сваёй камандзе. На ўсіх папярэдніх выбарах кандыдаты ў прэзідэнты часцей за ўсё прадстаўлялі толькі сябе, заяўляючы, што яны персанальна лепш Лукашэнкі па тым ці іншым якасцям. Гэта было больш падобна на авантуру, так як для сапраўднай барацьбы за ўладу неабходна яснае бачанне будучыні краіны, сур'ёзная палітычная платформа.

Я на маючых адбыцца выбарах буду прадстаўляць эканамічную і палітычную платформу хрысціянскай дэмакратыі, за мной стаіць партыя, людзі з усіх рэгіёнаў Беларусі. У маёй маючай адбыцца выбарчай кампаніі галоўным будзе будучыня Беларусі, а не маё асабістае.

**Віталь, шмат актывістаў БХД будуць у тваёй ініцыятыўнай групе збіраць подпісы. як бы ты сам сябе ахарактарызаваў тым людзям, якія будуць адчыняць нам дзверы? чаму беларусы павінны падтрымаць цябе?** – *Aktyvist*

**Віталь Рымашэўскі:** Гэта чалавек, які верыць у Бога і верыць у Беларусь, у здольнасць беларусаў абараніць права сваё і сваіх дзяцей на годнае жыццё. За ім стаіць моцная маладая каманда. Яны даказалі на справе, што могуць мяняць гэты свет, жыццё беларусаў да лепшага.

**Якое дасягненне свайго жыцця ты лічыш найважнейшым?** – *Volha*

**Віталь Рымашэўскі:** Найвялікшае дасягненне майго жыцця – гэта падарунак ад Госпада – мой прыход да веры, у царкву.



***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёння ў нашай традыцыйнай рубрыцы «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ» мы прадстаўляем знакамітага беларускага палітыка, аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай дзяржавы, выбітнага адраджэнца і верніка **Канстанцн Астроскі***



# КАНСТАНЬЦІН АСТРОСКІ



Калі з глыбіняў беларускай гісторыі падымаецца рэха збройнай сечы, тупат капытоў і баявыя воклічы – раптам разьбіраеш: гэта гулка выгаворваецца імя й прозьвішча. Канстаньцін Астроскі.

Гетман найвышэйшы ВКЛ. Трыюмфатар бітвы пад Воршай. Пераможца ў 63-х баталіях.

У асобе Канстаньціна Астрожскага Беларусь атрымала нацыянальны манумэнт мужнасьці й вапрскага духу. Канстаньцін, як і першы імпэратар-хрысьціянін Бізантыі, як Каліноўскі й Езавітаў – па-грэцку «цьвёрды», «непарушны», – Астроскі быў канстантай беларускай гісторыі Старога Запавету.

Канстаньцін Астроскі – найбуйнейшы талент нацыянальнай стратэгіі: імклівай, грознай і вынаходлівай. Мабілізацыя духу й волі. Стоенасьць і манэўравасьць. Канцэнтрацыя колькасьці на другасных участках, а якасьці – на галоўным кірунку ўдару. Раптоўная атака меншымі сіламі – і перамога!

Усё жыцьцё Астроскі граміў значна большыя й па-драпежніцку агрэсіўныя татарскія загоны ды маскоўскія полчышчы. Але галоўны ягоны бой адбыўся 8 верасьня 1514 г. Пад Воршай, на беразе Дняпра, дзе сышліся 80-тысячная акупацыйная маскоўская армада і 35-тысячнае войска ВКЛ.

Шквальныя залпы артылерыі праламілі цэнтар маскоўскага фронту й агаломшылі ваяводаў Чалядніна й Галавіна. Не даючы ворагам ачомацца, Літва зь пераможнымі воклічамі расьсекла расейскія баявыя парадкі. Маскавіты кінуліся наўцёкі. Пагоня зьнішчыла й узяла ў палон дзесяткі тысячаў.

Розгалас аршанскае перамогі пракаціўся па ўсёй Эўропе. Астроскага віншавалі з бліскучай вікторыяй кіраўнікі вядучых дзяржаваў і сам Папа Рымскі.

Канстаньцін Астроскі – беларускі ваяр: увесь стрыманая сіла й сьцятая ў кулак воля. Барадаты, каржакаваты, ён пільна пазірае з-паб дрымучых броваў, як Белавеская Пушча ці партызанскі лес глядзіць з глыбіняў кожнай беларускай душы.

«На д'ябла – крыж, на ворага – меч!» – такі быў дэвіз Астроскага. Ідэал патрыятычнага хрысьціянства, якое ўхваляе вызвольную вайну. Нацыянальны вобраз вайскаводца, што ў гонар перамогаў уласным коштам будаваў капліцы й цэрквы. Ён з тых жаўнераў, якія прыходзілі да Яна Хрысьціцеля, пытаючы: «А нам што рабіць?..»

Астроскі пакінуў Беларусі ня толькі перамогі й храмы. Яшчэ сына. Канстаньціна Канстаньцінавіча. Абаронцу кальвінізму й палітычнага лідэра праваслаўя, мэцэната, заснавальніка Акадэміі пры сваім двары, які ў 1581 г. выдаў першую ва Ўсходняй Эўропе поўную царкоўна-славянскую Біблію – Астроскую.

Бо гэта ягонага вобразу не стае сучаснаму беларускаму войску. Гэта ягоных бюстаў няма ані ў Генштабе, ані ў Міністэрстве абароны, ані на стале ў галоўнакамандуючага. Гэта ягонае прозьвішча павінныя былі б набыць вуліцы суворавых ды кутузавых, жукавых ды ракасоўскіх.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# Кс. Андрэй Рылка. Школа паміж атэізмам і рэлігіяй



Апошнім часам узнікае нямала дыскусій на тэму патрэбы ўвядзення ў школах прадмету па рэлігійнай культуры. Можна са зразуменнем аднесціся да дыскусіі на тэму відавочных праблем, звязаных з тым, хто і як можа выкладаць гэты прадмет. Аднак варты ўвагі сам спосаб дыскусіі праціўнікаў увядзення ў школах рэлігійнай адукацыі. І хоць не хочацца рабіць чорнага піяра некаторым абаронцам атэістычнай сістэмы адукацыі, то ўсё ж варта звярнуць увагу на іх уяўленні аб хрысціянстве і прасачыць, на чым грунтуецца іх аргументацыя супраць рэлігійнай адукацыі ў школе.

### Школа: інфарматар ці выхавальнік?

На самым пачатку варта звярнуць увагу на фундаментальную праблему, якая незаўважальна стаіць за ўсімі дыскусіямі на тэму прысутнасці рэлігіі ў школе. Гэта пытанне аб канцэптуальным разуменні ролі школы: інфармаванне ці выхаванне? У залежнасці ад адказу на гэтае пытанне разыходзяцца шляхі дыскусіі.

Існуе пазіцыя, што школа павінна адыгрываць толькі інфармуючую ролю і не павінна займацца выхаваннем. Прыхільнікі такога погляду перакананыя, што можа існаваць школа, якая не будзе фарміраваць нейкі канкрэтны светапогляд вучня, якая будзе вольная ад ідэалогій. Сфера выхавання ў такой сітуацыі перакладаецца на па-за школьнае асяроддзе (сям'я, Царква, нейкія іншыя грамадскія інстытуты). За такі тып школы заўсёды будуць змагацца прыхільнікі ідэалогіі індывідуалізму, лібералізму, секулярызму. Яны вераць у тое, што веды не выхоўваюць, што школа можа даваць нейтральную інфармацыю аб свеце, вольную ад якіх-небудзь пераканнняў. Парадаксальна, але прапанова такой мадэлі школы – гэта ўжо светапогляд, гэта ўжо выхаванне ў пэўным кірунку.



Другая канцэпцыя, якую мы назавём тут выхаваўчай школай, зыходзіць з перакананання, што адукацыя адыгрывае велізарную ролю ў фарміраванні светапогляду вучня. Таму сярод безлічы магчымых адукацыйных праграм належыць выбраць (або стварыць) найбольш аптымальную для дадзенага грамадства. Як бачым, усё ў канечным выніку залежыць ад таго, па якім крытэрыям будзе стварацца адукацыйная праграма. А выбар крытэрыяў у сваю чаргу залежыць ад мэты, якую ставіць перад сабой творца канцэпцыі адукацыі. А мэта залежыць ад адказу на пытанне: які чалавек прыходзіць у школу і які павінен з яе выйсці? І тут мы даходзім да праблемы канцэпцыі чалавека ўвогуле. Уцякчы ад прыняцця нейкага бачання чалавека немагчыма. Кожны варыянт (або яго адсутнасць) будзе ўжо выбарам пазіцыі, светапогляду, адказам на пытанне аб натуры, мэце і сэнсе існавання чалавека як такога.

### Догмы атэістычнага светапогляду

Прычыны ж рэальнай небяспечнасці атэістычнага мыслення крыюцца ў яго фундаменце. Вось некаторыя з асноўных прынцыпаў, на якіх трымаецца светапогляд сучасных атэістаў:

1. Вера ў тое, што чалавек – гэта добрая і разумнейшая за іншыя жывёлы разнавіднасць малпы, якая для шчасця патрабуе толькі заспакаення матэрыяльных (жывёльных) патрэбаў.
2. Вера ў натуральную дабрыню і дасканаласць чалавека, якія псуюцца ў працэсе "выхаваўчага насілля" (лозунг індывідуалізму), ад якога можна вызваліць кожную асобу, калі заняцца стварэннем ідэальнага грамадства (розныя формы сацыялізмаў).
3. Вера ў магчымасць нематываванай маральнасці (грамадства



можна пабудаваць на тым, што ўсе будуць высока маральнымі проста так). Увогуле, атэістычная прапаганда часта адклікаецца да "аргумента", што ўсё існуе "проста так" (беспрычыннасць усяго). Нягледзячы на прымітыўнасць і інфантыльнасць такога тыпу мыслення, яно даволі паўсюднае нават сярод многіх сучасных навуковых дзеячаў. Гэта звязана з тым, што выбар альтэрнатыўнага варыянту (усё мае сваю прычыну), прымусіў бы вучонага-атэіста прыняць (на моцы логікі) існаванне першапрычыны і згадзіцца на тэізм, прызнаць большую рацыянальнасць рэлігіі, чым атэізму. Атрымліваецца абсурдная сітуацыя, калі ў імя ідэалогіі атэізма, вучоны абмяжоўвае сваё мысленне і навуковы патэнцыял. Яшчэ горшая сітуацыя, калі гэтая рэдуктыўная ідэалогія выдаецца за "навуковую".

4. Вера ў абсурднасць чалавечага існавання (нараджаецца, каб памерці). Гэтая вера генеруе розныя формы нігілізму, песімізму, пагарды да чалавека, апатыі і нежадання развівацца (бо няма матывацыі, сэнсу, персанальнай мэты). У больш прымітыўнай форме гэтая "вера" выражаецца ў агнастыцызме (уцёках ад пытанняў аб сутнасці, мэце, прычынах), які з-за сваёй ідэйнай бясплоднасці і тупіковасці зноў жа заканчваецца экзістэнцыяльным крызісам і прыводзіць да дэградацыі чалавека.

### Калі ёсць атэізм, чаму не можа быць тэізму?

Савецкая школа асноўваецца на ідэалогіі атэізма і матэрыялізма. Рэдуктыўны падыход гэтага светапогляду, а таксама яго дэструктыўныя наступствы нясуць у сабе небяспеку дэградацыі грамадства. Заклікаючы не дапускаць хрысціянства ў школу, антыцаркоўна настроеныя асобы не заўважаюць, што дзеці абсалютнай хрысціянскай большасці нашага грамадства знаходзяцца пад моцным прэсінгам атэістычнай ідэалогіі, якая па сённяшні дзень пануе ў многіх школьных падручніках.

Здаецца, скіраванне дыскусіі аб выкладанні ў школе рэлігійнай культуры ў рэчышча савецкай антыхрысціянскай прапаганды не нясе ніякай канструктыўнай карысці для сучаснай беларускай школы.

Патрэба здаровай рэлігійнай адукацыі здаецца настолькі зразумелая для фарміравання сапраўды адукаванай і развітай асобы, што размовы аб адваротным проста не маюць сэнсу. Хацелася б таксама звярнуць увагу на тое, што ў дыскусіі важна не зыходзіць у рэчышча псеўдапраблем і псеўдадыспутаў, калі замест сумеснага пошуку рацыі адбываецца толькі абмен суб'ектыўнымі меркаваннямі.

Неабходнасць і роля рэлігійнай адукацыі ў беларускай сістэме навучання і выхавання патрабуе сур'ёзнага і канструктыўнага абмеркавання. Больш карысці было б з абмеркавання спосабаў выкладання рэлігійнай культуры, абароны грамадскай свядомасці ад псеўдарэлігійнасці і інструменталізацыі хрысціянства. Такая дыскусія патрэбная сучаснаму беларускаму грамадству. Ад яе сур'ёзнасці ў многім залежыць, у якім кірунку будзе ісці працэс дэкамунізацыі і рэхрысціянізацыі не толькі школы, але і ўсяго нашага грамадства.

*http://sviatar.livejournal.com/*




# Больш за 100 вершаў да 100-годдзя Ларысы Геніюш

У абвешчаным аб'яднаннем літаратараў-хрысціянаў «Дабравест» паэтычным конкурсе да 100-годдзя Ларысы Геніюш узялі ўдзел 26 аўтараў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Было даслана больш за 100 вершаў.

Як паведаміла прэсавай службе БХД сакратар конкурсу, вядомая паэтка Галіна Каржанеўская, з красавіка па чэрвень на электронную скрыню і на звычайную пошту свае творы даслалі аўтары з Менска, Берасця, Горадні, Пінска, Рагачова, Глыбокага, Віцебска, Баранавічаў і іншых гарадоў і мястэчак. Адмыслова напісаныя вершы даслалі нават дзеці (вёска Дварэц Дзятлаўскага раёна Гарадзенскай вобласці), а сябра БХД з Баранавічаў Галіна Ярашэвіч даслала сваю песню, прысвечаную Ларысе Геніюш.

Журы конкурсу вызначыла пераможцаў і прызёраў конкурсу.

**Спецыяльныя прызы атрымалі:**

Гісторыка-патрыятычны клуб «Спадчына» (в. Дварэц, Дзятлаўскі раён, Гарадзенскай вобласці)
Галіна Ярашэвіч (Баранавічы) – аўтар цыкла спеваў на вершы Ларысы Геніюш

**Пераможцы:**

Марыя Баравік (Віцебская вобл., Глыбоцкі раён)
Алесь Вярцейка (вучыцца ў Менску)
Эдуард Граковіч (Менскі раён)
Зоя Жук (Гародня)Алена Сурба (Гародня)
Алесь Корнеў (Баранавічы)
Марыля Шлык (Рагачоў)

**Прызёры:**

Алена Арцёмава (Віцебск)
Аляксей Белы (Баранавічы)
Алена Богдан (Берасьце)
Кацярына Глухоўская (Менск)
Юрась Касцюк (Наваполацк)
Рагнед Малахоўскі (Менск)
Альдонія Наўчанкова (Клецк)

Спявачка з Баранавічаў, сябра БХД Галіна Ярашэвіч падрыхтавала музычны альбом да 100-годдзя з дня нараджэння славутай беларускай паэткі Ларысы Геніюш пад назвай «Цябе спяваю».

Назву аматарскаму альбому дала першая песня, якую напісала сама Галіна Ярашэвіч у гонар паэткі. Астатнія дзевяць спеваў на дыску створаныя на вершы Ларысы Геніюш. Сярод іх такія вядомыя, як «Дзяўчына», «Было свята», «На шчасце», «Сонца ясна засвяціла», «Начлежнікі»

Музыку да ўсіх спеваў напісала спадарыня Галіна. Паводле яе, гэта не бардаўская, а інструментальная музыка. Аранжыроўшчыкам выступіў сын Галіны Ярашэвіч Павал Зубік.




***Галіна Ярашэвіч*** (г. Баранавічы), спецыяльны прыз.

## ЦЯБЕ СПЯВАЮ

Твой дзіўны вобраз захапіў, твой мужны розум,
І Ты уся як бы нацятая страла,
Як знічка ў светлым і далёкім небе -
Ты да мяне як маці родная прыйшла.

Прыпеў:
Ларыса Геніюш – Цябе спяваю,
Ларыса Геніюш – Цябе люблю,
І нібы пацеркі нанізваю на нітку,
Тваю паэзію я песняю хвалю.

Ты брала словы з кветак, зелені і неба,
Сплятала ў косы цудадзейныя радкі.
Іх абвілі людзкое злосці ланцугамі,
А ты ішла не тулячыся – напрасткі.

Прыпеў.

Твой лёс, як вечны немінучы боль Радзімы,
Не маці, мачахай была Табе яна,
І адмаліць у Бога мы усе павінны
Віну людскую прад Табой і Ім спаўна.



*Яна Сіневіч,*
сябра гісторыка-патрыятычнага клуба «Спадчына»,
12 гадоў
спецыяльны пры

СЦЯГ
Калі з вяршыні сцяг зрывалі
Узнесены туды героем на руках,
Апошнюю надзею адбіралі,
Каб у сэрцах нашых пасяліўся страх.

А сцяг уніз ляцеў, крыляў,
Як птах падбіты, з неба падаў,
Нібы крывёю ён сцякаў,
На чысты снег, на хмурныя прысады.

Ён уніз ляцеў, зусім бяссільны,
У знямозе крылы апускаў,
І вецер, плачучы ад крыўды,
Пяшчотна крылы падтрымаў.

Ды ўсё ж з зямлёю сцяг сустрэўся,
Падняцца болей не здалеў.
Упаў на снег, і снег аж загарэўся:
Крывавай паласою чырванеў.

І жорсткі наймiт брудным ботам
На край бялюткі наступіў.
За край рвануў уверх, здалося-
Бы ў кроў ён рукі апусціў.

І так пайшоў, з пагардай пазіраючы,
У руках камечачы наш сцяг,
Святыню нашу груба зневажаючы,
І кроў герояў стыла на руках.

І так ідзе, заплямлены крывёю,
Святыні топча на вачах.
А мы маўчым, нямеем, бо не здольны
Змагчы ў душы агідны страх...

*Алена Сурба (Гародня)*

Ля гары, ля Замкавай, істужкай
Нёман хвалі завівае праз вякі,
А Каложа раненаю птушкай
З вышыні глядзіць углыб ракі.

Праплываюць над царквой аблокі.
Клічуць адарвацца ад зямлі.
Хочацца царкве ўзляцець высока,
Ды не можа – крылы прыраслі.

Стынуць развярэджаныя раны -
Цягне скразнякамі ад вады
Плачу я дапамагчы не ў стане ...
Хто царкву ўратуе ад бяды?

Хто загоіць зломаныя крылы,
Ахінуўшы цеплынёй душы?
Госпадзі, Тваёю Божай сілай
Памажы Каложы, памажы!

*Марыля Шлык (Рагачоў)*

**ЖЫЦЦЁ, ПАЧАТАК, КРЫЖ, НАДЗЕЯ...**

Ты хочаш, каб раздзерлі душу,
Каб скрываточылі яе –
Скажы: Не йснуе беларусаў
Ці проста нас не існуе.

На злосць усім – я НЕ ПАМРУ,
Занадта хочуць смерці...
І кожнай кроплю ўваччу
Я буду верыць, верыць.

І душу, зраненую ўшчэнт,
Я аднаўлю любоўю,
Любоўю ў міліёны мэт,
У адную, непаўторную.

Не існуе такой – не веру,
Што буду больш любіць...
Жыццё, пачатак, крыж, надзея.
І толькі з ёй мне жыць.

Ты хочаш, каб раздзерлі душу,
Каб скрываточылі яе...
Не дам абразіць беларусаў:
Яны мае, мае, мае!

*Публікацыя твораў іншых пераможцаў – у наступным нумары «Крыніцы».*



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,
ці e-mail: **bchd.info@gmail.com**
або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**
**Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

**Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 7 жніўня 2010 г.**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**Распаўсюд бясплатны.**